БЕЛАРУСКІ

# ЛЕТАПІС

№ 2 ТРАВЕНЬ — ЖНІВЕНЬ 1938 г. ГОД III



*Праф. АЛЯКСАНДАР КОШЫЦ*

## ЗЬМЕСТ





СКЛАДКІ: 3 зл. на год; 1 зл. 50 гр. на паўгода; асобны нумар 30 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Каралеўская вул. 3-8
Конто: Rozrachunek 91.



Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko, Wilno, ul. Mickiewicza 22-a.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

№ 2 ТРАВЕНЬ—ЖНІВЕНЬ 1938 г. ГОД III

ОЎНА МІЦЮТЕ

## ПАСАГ

Без пасагу мае скрыні,
ня чуваць варотаў скрып;
марна руты лісьце гіне
не даждаўшыся пары.

Я пайду зьбіраць, матуля,
сьлёзы сумныя расы,
мо' ў далонях маіх чулых
ў пэрлы зьменяцца красы.

Украду ад сонка косы,
іх укіну у ніты,
і для хлопца вытку пояс
найдзіўнейшы, дарагі.

Быццам неба мае вочы,
як лілеі рук краса,
завярні каня, мой хлопча,
дарагі тут ёсьць пасаг.

Дні, гады ідуць дарогай...
жаль, матуля, ня уняць!—
поясу нет залатога
і... вароты ня скрыпяць!..

*Пераклаў з літоўскага М. ТАНК*

---

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## ЗОРНЫЯ ДАРОГІ

Ёсьць ў жыцьці ня мала сьветлых лятуценьняў
і гарачых думак і мазольных рук.
Толькі трэба ўмела выплыць з чорных ценяў,
вёсламі расплёскаць ў попяле зару.

Можа глушыць вецер медныя парывы,
можа цёмным дымам ўкрыты кругазор,—
але часам ночы залатую грыву
кіне на гасьцінец вытканую з зор,

каб душою зьліцца з новаю сустрэчай
на шляхох гусіных ў зораў грамадзе...
Пасьля горкай ночы — хто мне запярэчыць?!—
Ярка загарыцца ў сініх кудрах дзень!

МАКСІМ ТАНК

# КРЫНІЦЫ НАШАЙ ТВОРЧАСЬЦІ

Старэйшыя прадстаўнікі нашай літаратуры перадусім ставілі сабе адну задачу: адбіць у сваей творчасьці пару нашага рэнэсансу і менш-больш усё тое, што мела з ім сувязь. Далёка меншы клалі націск на бок мастацкі, што яшчэ і сяньня даецца адчуць у творчасьці нашаніўскіх эпігонаў. І таму, за адносна кароткі час свайго існаваньня, беларуская паэзія — у прыраўнаньні да іншых славянскіх — дала столькі, так званых, „вершаў бадзёрых", заклікаў.

Нейк у цяні аставалася народная творчасьць.

Пробы яе выкарыстаньня не пераходзілі граніц тэматыкі. Якраз бралі з народнай творчасьці тое, што зьяўляецца выключна яе індывідуальнай уласнасьцю. Паўтораная-ж тэматыка песьняў прыгонных, бытавых, — перадусім апошніх, — адарваная ад часу і выпаласканая з багатай народнай орнамэнтыкі, не магла зрабіць свайго ўражаньня.

Залатой, нявыкарыстанай рудой народнай творчасьці ляжаў багаты матар'ял вобразаў, мэтафораў, прыраўнаньняў, словаў. У сувязі з зацікаўленьнем сяньня народнай творчасьцю, а перадусім у сувязі з карыстаньнем з яе нашым літаратурным маладняком,—трэба было-б зрабіць ня толькі пераацэнку, і крытычны перагляд нашых асягненьняў, але перадусім, хоць-бы збальша, намеціць далейшыя шляхі, назваў-бы, мастацкай эволюцыі нашай паэзіі.

І так, калі ходзе аб тэматыку народнай песьні, то ў падыходзе да яе трэба мець якнайбольшыя засьцярогі. Ня можам сяньня браць некаторыя факты з народнай творчасьці не афармляючы іх адпаведна, і гэтым самым даючы толькі штучныя псэўдонародныя зьлепкі, як напрыклад розныя „князёўны", „русалкі", „ваўкалакі". Тыя, што твораць іх, забываюцца, што народная творчасьць ня вырасла калісь у сівую мінуўшчыну адразу, не зьяўляецца выключна прадуктам старым, акасьцянелым. Народная песьня творыцца і ў сяньняшнія дні, тымбольш у нас, у народу ледзь не пазбаўленага сваей прэсы. Забываюцца, што народная творчасьць і далей у нас разьвіваецца, узбагачваючыся ўсёбакова, зьменіваючы, у залежнасьці ад гістарычных абставін і сваю тэматыку. І таму падыход да народнай тэматыкі, выкарыстаньне яе, — не перарываючы адначасна тых сонечных нітак, якімі гэтая творчасьць зьвязана з мінуўшым і з сяньняшнім днём, — і ёсьць той праблемай нашай мастацкай літаратуры, без зразуменьня якой, мы будзем таптацца на мейсцы.

Менш можна сказаць аб слоўным матар'яле, да якога патрэбны толькі здаровы, крытычны падыход. Лішняе ўжываньне часамі архаізмаў, тымбольш, калі гэта не канечнае для адлюстраваньня якога небудзь вобразу, — дае зусім непажаданыя вынікі.

Пераходзячы да вобразнасьці ў паэзіі, мушу адмяжавацца з аднэй стараны ад вобразнасьці самой у сабе, а гэтым самым ад ідэальных лятуценьняў некаторых фармалістаў - эстэтаў; а з другога боку — ад тых, што хочаць сяньняшнюю нашу творчасьць, — хутчэй яе ідэолёгічны багаж, — уставіць у пераедзяныя часам рамкі народнай творчасьці. Клясычны прыклад першага маем у нашай паэзіі. Напрыклад у А. Іверса, менш у Ніны Тарас, — будова мэтафараў бяз загадзьдзя азначанай іх мастацкай функцыі. І выходзе тое, што паэт

умее апрацоўваць пэўныя дэталі (найчасьцей малюнкі хараства прыроды), але гэты самы майстра перад шырэйшымі палотнамі стаіць бязрадны. Астаецца ўражаньне, што ведаюць, як гэтая ці іншая дэталь мусіць выглядаць, але самай галоўнай рэчы — цэласьці — ня бачаць. І калі прыступяць да большых кампазыцыяў, матар'ял рассыпаецца, ападае тынк, вобразнасьць ліняе, тырчыць толькі голае рыштаваньне і, праўда, растуць да безканечнасьці т. зв. „мастацкія вершы", — але хіба на здароў'е толькі адных рэдактароў і крытыкаў.

У другім выпадку, — а тут ужо больш заблытаная справа дзякуючы загадзьдзя існуючым рэцэптам, — маем некалькі магчымасьцяў. Пробы, якія рабіліся да гэтага часу, гэта: вонкавыя стылізацыі народнай песьні, або жывая, творчая апрацоўка самой тэматыкі ўзятай з народнай творчасьці. Зразумела, што ў кожным выпадку, а тымбольш у стылізацыі, рашаючую ролю адыгрывае вычуцьцё, знаёмства народнай песьні, яе складу, — і таму рэдка ў каго яна выліваецца ў ідэальнай форме. Зноў-жа, апрацоўка самой тэматыкі ня можа звадзіцца да аглады рыфмы і рытму, да аглады вонкавай. Трэба па меры магчымасьці старацца адтварыць вобраз поўнасьцю, гэта знача зьвязаць яго, запаўняючы адлегласьці часу і фактаў з сяньняшнім днём.

Позна ўзяліся ў нас за этнаграфічныя зборы беларускіх песьняў і казак. Сяньня, мы толькі дзе-недзе лучаем на сьляды сівых былін. Большасьць іх сьпіць у курганох і толькі дзе-недзе — перадусім у казках, — знаходзім іх сьляды, як дарагія нержавеючыя водпырскі гэтых вялікіх народных паэм. Так я спаткаўся з былінай пра Вяля. Ня знача, што яны рассыпаўшыся загінуць. Пры глыбейшым, грунтаўнейшым пазнаньні народнай творчасьці яны зазьзяюць перад намі, — толькі трэба больш пытліва заглянуць ува ўсю творчасьць, як у мора, а не ў паасобныя яго крыніцы.

Важная для нас народная творчасьць яшчэ і з іншага боку — мастацкага. Мастацкая старана ў сяньняшнія дні калі ня шумнай, дык сталай падкалоднай барацьбы паміж прадстаўнікамі (хутчэй бяззубымі консумэнтамі) даўніны і літаратурным маладняком, — вельмі актуальная. Справа тут аб буйнай вобразнасьці мовы, мэтафарах і іншых новых мастацкіх асягненьнях. Не станаўлюся ў абарону хвараблівага фабрыкаваньня адарваных ад жыцьця, ад зьместу мэтафараў. Але з другой стараны абаронцам „прасьціні" не радзіў-бы хавацца (як часта бывае) за народную творчасьць, бо там, хіба як нідзе, і можна спаткаць такую вобразнасьць, да якой часта далёка так „грэшным" нам. Вось прыклады: „А ўзыйшло маё гора густымі кустамі, зацьвіло маё гора рознымі цьвятамі"... „Засеіла дзяўчынанька думанькамі поле"... „Ой, дагнала свае леты ля зялёнага мосту"... „Сакатала сонейка ды за лес заходзючы"... *) і тысячы іншых зачэрпнутых з народнай паэзіі. Выкарыстаньне гэтага багацьця, у якім замкнёна шмат хараства і зьместу — (зразумела не беспасярэднае перапісываньне, але творчая пераапрацоўка гэтага матар'ялу), шмат-бы ўліло новых мастацкіх вартасьцяў у сучасную паэзію. Паўтараю: *творчая пераапрацоўка*, якая шмат мусіць розьніцца ад так жывучага яшчэ ў нас прафэсыянальнага падыходу да справы.

Паколькі такая вобразнасьць, як вышэй паданая, вымагае ад аўтара здольнасьці вобразаваньня, ці канструкцыйнасьці, дык мэтафара

---

*) *З народных песьняў запісаных у Паставушчыне.*

зьместу надае твору маналітную цэласьць, будучы сама больш адпорнай на час і на іншыя „атмосфэрычныя" зьмены. Бязумоўна, што будова першага тыпу мэтафоры даецца лягчэй. У нас ледзь ня кожны з пачынаючых паэтаў менш-больш набіўшых руку, можа іх тварыць да безканечнасьці, і — часта гэта робіць, забываючы, што такая мэтафора, гэта яшчэ ня ўсё, гэта толькі адна з складовых частак мастацкага твору, якая на'т нагрchoмаджаная ў якнайбольшай колькасьці сама па сабе нічога ня дасьць. Мэтафараў такіх менш спатыкаецца і ў народнай творчасьці; там або процістаўленьне, або прыраўнаньне цэлых абразоў:

*„Сама іду дарогаю, а голас мой дуброваю"...*

*„Бядаваў зялёны лён пры дарозе стоючы:*
*— Ой, бяда-ж мая, бяда, што сьцюдзёная вясна;*
*не далі мне вырасьці, майму сем'ю высьпеці...*
*Бядавала дзяўчынанька у таткі гуляючы;*
*— Ой, бяда-ж мая, бяда з частымі сватамі:*
*не далі мне вырасьці, русай касы выплясьці"...*

Прыклады з нашай мастацкай паэзіі: „Я сваё гора тапіць панясу, беды павешу на лозы" — М. Машара. Або зноў вобразнасьць мэтафары з сацыяльнай вымовай: „Вясной сьлязамі не засееш поля", „Выгрызла (сенакос) сонцам засуха" *(Нарач),* „Ім дай песьню, каб сыпала цьветам" *(Каліноўскі),* „Там, дзе паспрачаліся тры дарогі: адна з вёскі, другая з князявага двору, а трэцяя з сьвету шырокага, вольнага"... *(Сказ пра Вяля).* Агулам, мусім імкнуцца да таго, каб вобразнасьць, мэтафорычнасьць мовы, была ня толькі вонкавая.

Нам ня трэба баяцца, што нехта нас „не разумее". Апошняе і зрадзілася толькі таму, што ў нас прывыклі чытаць ня думаючы, і пісаць бяз найменшай ашчаднасьці паперы ў прыраўнаньні да зьместу самога і да зьместу, глыбіні і шырыні вобразнасьці. Зноў-жа, ня слушна пасьля кожнага новага пачыну падымаецца шум у лягеры людзей, якія лічаць сябе ўпаважненымі (няведама ад каго) стаяць нібы ў абароне паэзіі. Яны процістаўляюць, як ужо зазначыў, народную творчасьць нашай маладой літаратурнай. Мы ня менш ад іх разумеем народную творчасьць. Нашая-ж творчасьць, — нават з вышэй паданых прыкладаў, — зьяўляецца больш народнай і, калі хочаць, на'т больш нацыянальнай, як „Баба Еўка". Нам трэба трымацца здалёк ад ужо існуючых шаблёнаў, ад розных мастацкіх рэцэптаў выпісаных нават аўторытэтамі. Кожны паэт мусіць тварыць новыя формы, паказываць новыя мастацкія асягненьні. А карыстаючы з народнай творчасьці, як і з іншых мастацкіх крыніц, існуючых ў сваіх пачынаньнях далей таго, каб толькі вешаць (як гэта найчасьцей робіцца) на рыштаваньне тэматыкі народнай песьні, — сарваўшы зрэбную, льняную вопратку, — усякія шкляныя, яркія ў сваім выглядзе фабрыкаты; або наадварот. Вынік заўсёды той самы.

Мне здаецца, што можна ня ведаць таго ці іншага вершу, а то і нават творчасьці якога небудзь „нацыянальнага паэта" (мастацкія вартасьці якога старанна тушуюцца заслугамі), але тварыць нам ня ведаючы народнай творчасьці — немагчыма.

Зразуменьне гэтага бачым мы ў суседніх народаў. У расейцаў ад былін праз Пушкіна, Лермантава, Кальцова да Есеніна, Беднага, Маякоўскага.

*„Револьверы в четыре курка,*
*сабля в шестьдесят лезвии гнута.*
*А в Ивана рука!—*
*да и та за пояс ткнута".*

Здаецца новы Ільля Мурамец і Вільсон — сучасны Салавей Разбойнік. У новай польскай паэзіі Ясінскі („Шэля"), Добравольскі („Яносік") і можа найбліжэйшы да нас сваей народнасьцю Чухноўскі.

Як бачым, рост мастацкай паэзіі цесна зьвязаны з народнай творчасьцю. Нашая творчасьць яшчэ доўгі час будзе чэрпаць поўнымі прыгаршнямі гэту сьцюдзёную, чыстую крынічную ваду жыцьця. Народная-ж песьня будзе далей нас вясьці праз жыцьцё, як маці дачку

*...„праз высокія горы з капачамі,*
*праз цёмныя бары з агнямі,*
*праз вялікія сёлы з скрыпачамі"...*

*(З народнай песьні).*

Вільня 1938 г.

ЁЗАС КЕКШТАС

## МАТЦЫ

Ведаю, што ня сьпіш ты начамі;
боль вочы сьсе ціха і сьлёзамі сьвежыць,
і птушкі ў садох, як мяне, галасамі
вясёлымі болей ня цешаць.

Ведаю — матчына сэрца ран крые нямала,—
ў няволі сын даўна, —
помню — як бралі — ты сьлёзы хавала
перад тым, каго звала калісь „марнатраўным"...
Бачыў...
І ты зауважыла гэта.
Устрымалася. На'т усьмяхнулася. У вокны
глянуў, за шыбамі ўбачыў цябе там
і белы знак хустачкі мокрай.

О, матка!
матка мая!
Твой сын цяжка хворы...
у сэрцы гарыць яго міласьць да сонца!
Так хоча ён вырвацца, адагнаць цень дазорцы,
да грудзей прытуліць сьвет паніжаны горам!

Ня плач, маці, і не кляні ты яго,
Ён верніцца, мама...
ён верніцца пэўна,
калі не ашалее
калі ня згніе ў сырых норах падземных...

*Пераклаў з літоўскага М. ТАНК*

А. ГОРНЫ

# ПРАФ. АЛЯКСАНДАР КОШЫЦ

Беларуская музычная літаратура за апошніх некалькі месяцаў ізноў паважна ўзбагацілася рэчамі першараднай мастацкай вартасьці. Новаапрацаваныя беларускія народныя песьні, якія паявіліся на віленскім беларускім грунце, сваей мэлёдыйнасьцю, з адначасна захаваным у поўнасьці народным колёрытам, — адразу зьвярнулі ўвагу паклоньнікаў беларускай народнай песьні. Адчувалася, што гэтым разам да беларускай народнай песьні дакранулася чулая рука вялікага Мастака. Гаворка тутка аб новых аранжыроўках беларускай песьні, аранжыроўках выдатнага ўкраінскага кампазытара — праф. Аляксандра Кошыца.

Апрацаваныя ўжо ім песьні: „Там за садамі“ (калядка), „Ой, вышла маці із новае хаты“, „Ой, у садзе-вінаградзе“, „Ува Іардані“ (калядка), „Ой я п'яна, п'яненька“, „Гыля, гыля, мае шэры гусі“ і „Лугам, лугам зеляненькім“ (валачобная).

Глянем-жа хаця коратка на жыцьцё і працу гэтага вялікага Мастака, які апошнім часам зьвярнуўся сваім творчым інтэлектам і да беларускай народнай творчасьці.

---

Аляксандар Кошыц радзіўся 30.VIII.1875 г. у сям'і сьвяшчэніка, у Кіеўшчыне. Вучыўся ў Кіеўскай духоўнай сэмінарыі, а посьле Акадэміі, якую кончыў у 1901 г. У наступным годзе стаў вучыцелем у Стаўрополі на Каўказе, дзе зарганізаваў мужчынскі хор і пачаў канцэртаваць з украінскімі песьнямі, за што ледзь не „пазнаёміўся“ з мясцовым жандарскім палкоўнікам. Першы раз А. Кошыц зарганізаваў хор яшчэ ў 1896 г. з сялянскай моладзі, калі быў настаўнікам у пачаткавай школе. На Каўказе, на просьбу Ураду Кубанскага Казацкага войска, пачаў А. Кошыц зьбіраць казацкія песьні, якіх запісаў (тэксты і мэлёдыі) 500, за што ў 1907 г., на этнографічнай выстаўцы ў Катерінадары атрымаў залаты мэдаль.

У 1904 г. А. Кошыц пераносіцца ў Кіеў, на пасаду вучыцеля сьпеву ў Духоўнай Сэмінарыі. У Кіеве ў скорым часе абымае катэдру харавога сьпеву ў новаадчыненай Музычнай Школе Міколы Лысэнкі, а адначасна сам вучыцца ў клясе композыцыі Любомірскага (ад 1906 да 1910 г.), і вядзе некальхі хораў, між якімі найважнейшы быў Хор Студэнтаў Унівэрсытэту сьв. Уладзімера. У гэтым хоры праф. Кошыц у скорым часе ўводзіць рэпэртуар украінскіх песьняў, а на конкурсе хораў здабывае з ім першую нагароду. Але посьле бліскучых канцэртных падарожаў з хорам па Расеі і Бэсарабіі, чорнасоценныя ўнівэрсытэцкія ўлады выкінулі хор з Унівэрсытэту, а нахлынуўшая ў хуткім часе сусьветная вайна дабіла яго канчальна. Ды праф. Кошыц не апускае рук. Лучыць недабіткі гэтага хору з Хорам Курсістак і арганізуе мяшаны хор з выключна ўкраінскай праграмай, нягледзячы на паліцыйныя перашкоды і перасьледаваньні. Хорам гэтым ад 1914 да 1918 г. праф. Кошыц прарабіў вялікую нацыянальную работу, даючы падваліны ўкраінскаму музычнаму жыцьцю ў Кіеве, выводзячы „у сьвет“ новых маладых украінскіх композытараў. І гэта — трэба

помніць, — адбывалася ў часы, калі ўсё было прыціснута ботам расейскага вялікадзяржаўя. Апрача Студэнцкага Хору, праф. Кошыц дырыгаваў тады Студэнцкай Сымфанічнай Аркестрай і Ўнівэрсытэцкім Царкоўным Хорам.

У 1912 г. праф. Кошыц абымае капельніцтва ў тэатры Міколы Садоўскага, у якім выяву некалькі ўкраінскіх опэр, а яшчэ ў 1911 г. быў запрошаны ў Імператарскую Музычную Школу на катэдру харавога сьпеву. З харавой клясай разам з консэрваторскай аркестрай праф. Кошыц паставіў Ораторыю Гэндэля „Юда Макавей". У 1916 г. праф. Кошыц запрошаны на дырыгента Кіеўскай Опэры.

У часы ўкраінскай Цэнтральнай Рады праф. Кошыц уваходзіць у склад Музычна Тэатральнага Камітэту, пазьней атрымлівае номінацыю на Дырэктара Музычных Спраў пры Украінскім Дзяржаўным Тэатры, а адначасна зьяўляецца кіраўніком Музычнага Аддзелу Міністэрства Асьветы. У скорым часе праф. Кошыц творыць пры Міністэрстве Этнографічны Кабінет, а падчас Дырэкторыі закладае Украінскую Нацыянальную Капэлю, з якой вясною 1919 г. выяжджае на чужыну.

Падарожжа гэтае — гэта тріумфальны паход праф. Кошыца і ягонага хору па Сярэдняй і Заходняй Эўропе, па Злучаных Гаспадарствах Паўночнай Амэрыкі, па Канадзе, Мэксыцы, Паўднёвай Амэрыцы. Гэта была аграмадная прапаганда па ўсім сьвеце ўкраінскай культуры. Вагу гэтай падарожжы так ацэніваюць самі ўкраінцы: „Геройскія чыны ваякаў, што клалі галовы за волю на сьцяпох Украіны, асталіся і да сяньня астаюцца незнанымі для шырокага сьвету. Украінская палітыка ды дыплёмацыя не дапісалі, не пасьпелі здабыць сабе апінію сьвету. Але ўкраінская песьня ў інтэрпрэтацыі Аляксандра Кошыца падбіла сьвет, спапулярызавала імя Ўкраіны на абедзьвёх паўкулях — тріумфавала, а з ёю і яе Мастак — Аляксандар Кошыц".

Праф. Кошыц астаецца ў Паўночнай Амэрыцы на стала, дзе і далей працуе на ўкраінскай музычнай ніве. Там у 1935 г. абымае мастацкае кіраўніцтва над Злучанымі Украінскімі Народнымі Хорамі. Дзякуючы перадусім праф. Кошыцу, украінская песьня ў Злучаных Гаспадарствах Паўн. Амэрыкі вельмі папулярная, а народныя песьні ягонай аранжыроўкі ў перакладзе на ангельскую мову вытрымалі ўжо другое выданьне.

Праца праф. Кошыца для ўкраінскай песьні аграмадная, — ён стаў у гэтай галіне найбольшым аўторытэтам. Побач з Міколай Лысэнкай праф. Кошыц паклаў найбольшыя заслугі для разьвіцьця асаблівага, арыгінальна ўкраінскага стылю ў музыцы. Гэта талентавіты зьбіральнік-этнограф, композытар і гэніяльны дырыгент у ваднэй асобе.

Плады ягонай музычнай працы, гэта (апрача вышэй успомненых запісаных 500 казацкіх песьняў) больш 200 харавых украінскіх песьняў (пераважна ўжо выданых друкам), 40 Музычных Гобэлінаў (песьні розных народаў у апрацоўцы композытара); дзьве аркестральныя ўвертюры, некалькі аркестрных ілюстрацыяў, вялікая колькасьць царкоўных музычных твораў і апрацовак, розныя сьвецкія музычныя рэчы. Апрача таго праф. Кошыц напісаў некалькі навуковых прац з гісторыі ўкраінскай музыкі.

Сёлета вялікі композытар украінскай народнай песьні, няглядзячы на хваробу сэрца, укладае многа часу, здароўя і энэргіі ў му-

зычную апрацоўку новага ўкраінскага фільму ў Амэрыцы — „Маруся“.

За працу на ўкраінскім музычным полі Ўкраінскі Вольны Унівэрсытэт у чэскай Празе ў 1936 г. надаў праф. А. Кошыцу ганаровы тытул дохтара філёзофіі (Doctor honoris causa).

---

Да беларускай народнай песьні праф. Кошыц зьблізіўся сёлета ня першы раз. Яшчэ ў дзевяностых гадох мінулага сталецьця (1890—1896), будучы ў сваей роднай Тарасаўцы ў Кіеўскай губэрніі, композытар запісаў зукраінізаваную беларускую песьню „Сьвеця месяц, сьвеця ясны“, якая на Ўкраіну завандравала разам з беларускімі плытнікамі. Вялікі мастак адразу зьвярнуў увагу на красу беларускай песьні і піша аб ей так: „Гэта чаруючы, цудоўны ўзор народнага контрапункту, да якога проста страх дакрануцца рукой аранжыроўшчыка. Я яе так і пакінуў як яна пяецца, і думаю, што ніякой ноты ня можна дабавіць да гэтага шэдэўру народнай творчасьці“. Песьню гэтую композытар ня можа забыцца і далёка пазьней, будучы ў Парыжы ў 1929 годзе, запісаў другі яе тэкст ад аднаго ўкраінца, эміграпта, каторы, ізноў-жа, навучыўся яе ад беларускіх плытнікаў на Дняпры каля м. Трыпольля ў Кіеўшчыне.

А сёлета, калі слаўны композытар сустрэўся з беларускай песьняй ужо другі раз і пазнаў глыбей яе істоту, піша гэтак: „Яны цудоўныя, і па духу, слову і музыцы родныя нам, украінцам“... ...„Мне здаецца, што нашыя песьні вельмі блізкія да вашых і стылістычнай і мэлёдыйнай структурай, бо за старых часоў нашая гісторыя была больш супольная, чым цяпер“.

Так. Нашыя песьні сьпляліся, як сьпляталіся часта доля і нядоля нашых народаў. Цэлымі вякамі з Беларусі адбывалася вандроўка на поўдзень, „на Ніз“, на Ўкраіну. Нашыя прадзеды ня раз уцякалі ад панскага зьдзеку на шырокія, вольныя сьцяпы Ўкраіны. А разам з сабой нясьлі яны туды сваю родную песьню. Заносілі яе таксама плытнікі. Посьле, калі варочаліся, ізноў-жа прыносілі з сабой песьні ўкраінскія. Вось чаму часта ў нас можна пачуць украінскую „Капаў, капаў крынічаньку“ ці „Цякла рэчка невялічка“, як таксама на Ўкраіне пяецца „Сьвеця месяц, сьвеця ясны“ і іншыя беларускія. Таму ў іх столькі супольнага, побач з характэрнымі нацыянальнымі асаблівасьцямі, якія іх адрозьніваюць; таму нашыя песьні *родныя* украінцам — як піша праф. Кошыц — як і наадварот, украінскія вельмі блізкія, і ў вялікай меры *родныя* нам.

Усьведамляючы сабе ўсё гэта, ня будзем дзівіцца, што ў Кошыцавых аранжыроўках нашых песьняў чуем ня толькі ў поўнасьці захаваны „дух“ і колёрыт нашай народнай песьні, але нават болей таго: у іх музыкальны інтэлект композытара адкрывае нам і памастацку падчырківае ўсё тое, што становіць яе сутнасьць, яе характэрную асаблівасьць. „Песьня — піша праф. Кошыц — мае свае мэлёдыйныя звароты, сваю музычную мову, формула каторай крыецца ў самой мэлёдыі, і калі адступаць часта ад гэтай формулы, дык выходзе нешта падобнае, як у гутарцы ўжываць без патрэбы многа чужых слоў“. Такі падыход да народнай песьні, разам з глыбокім адчуцьцём найдрабнейшых нюансаў яе структуры, і дае гэтыя вялікія мастацкія шэдэўры, якія творыць з беларускай народнай песьні праф. Кошыц.

..."Пала мне ў вока — піша композытар — ваша калядка „Ува Іардані“ — і ня мог стрымацца ад пакусы з'аранжаваць яе на хор... Гэтую калядку я знаю даўно, бо сам запісаў яе на Ўкраіне ў Зьвенігародзкім павеце, у маей роднай Тарасаўцы. Але вашая калядка крыху адменная ад нашай і структурай і тэкстам, хаця толькі ў драбніцах, бо ўсё тое-ж самае. Мэлёдыйны контур вашай калядкі вельмі цэнны і цікавы, а непарочная яе чысьціня, сьвятасьць, і ціхое сьвятло радасьці, якім яна гарыць, быццам белая васковая сьвечачка з нежным агнём і сьветлымі сьлёзкамі воску, — да таго ўзварушае душу, што я пераіграўшы некалькі разоў аранжэмэнт, аж заплакаў“...

Вось як аранжыруе праф. А. Кошыц! Вось колькі ўкладаецца ў гэта душы! Вось чаму посьле такой аранжыроўкі песьня захоўваючы сваю крыштальную народную чысьціню, адначасна атрымлівае новую цудоўную вопратку, — ходзяць каля яе любячае і разумеючае сэрца і рукі Вялікага Мастака народнай песьні.

Вось чаму зусім накшае ўражаньне робяць на нас беларускія песьні ў „інтэрпрэтацыі“ розных „каскад“, — інтэрпрэтацыі, пачуўшы якую хочацца крычаць на ўвесь сьвет аб брутальным таптаньні мастацкай красы і народнай сьвятасьці, аб муках песьні ў руках людзей, ненавідзячых яе, прагнучых якнайскарэйшай яе сьмерці; аб муках песьні, творанай вякамі гора і нядолі, вырванай з найглыбейшых закуткаў народнай душы, — песьні, у якой народ выліў усю жудасную гісторыю свайго жыцьця, і каторая ў канцы трапляе ў рукі паяцаў-штукароў для зьдзеку і насьмешкі.

---

Маем ужо каля 10 песьняў, да якіх дакранулася працавітая рука Вялікага Мастака. Думаем, што гэты цэнны ўклад у нашую музычную літаратуру яшчэ пабольшыцца, а імя праф. Аляксандра Кошыца астанецца несьмяротным ня толькі ў гісторыі ўкраінскай музыкі, але і беларускай.

---

МАКСІМ ТАНК

## КОЖНЫ ПІША

Кожны піша бацькаўшчыне вершы.
Але ёсьць такія рыфмачы,
што паспаўшы на зямлі гэтай, пад'еўшы,
хочаць толькі вершам заплаціць.

І пачнуць выводзіць закаціўшы вочы:
„Ах і ох, люблю я гэты дзіўны край“!
Возьмуць пару зорак, месячныя ночы
і выходзе — проста каравай.

А яшчэ якісь там гістэрычны крытык
зьлічыць пункты, ахі, друкам адаб'юць.
І дзівішся толькі: ў полі сохне жыта,
а „шэдэўры“ гэткія растуць!

12.VI.1938

ПЛАТОН ГАЛАВАЧ *)

# БЕЛАРУСЬ У ВЯЛІКУЮ ВАЙНУ

Было:
вечны смутак, туга вечная і роспач...

Угары над зямлёю плывуць, занятыя толькі самымі сабою, мутныя хмары. Яны то зьбіраюцца густою талакою, то разьбягаюцца па неабсяжным прасторы неба і, апранутыя ў сьветлыя вопраткі, вандруюць па ім бязмэтна, то шчыльна сыйдуцца дзесьці за небасхілам і тады сунуцца адтуль мутнай, цёмнай сьцяною, злосна грымяць і шыбаюць у асмаглае цела зямлі вострыя стрэлы маланак.

А па зямлі безперастанку паўзуць вялізныя шэрыя цені. Панад зямлёю, у перагонкі з ценямі лётаюць сьцюдзёныя, то поўныя вільгаці, то сухавеі — вятры.

Ветру многа прастору над гэтай зямлёю. Гучным шолахам лісьцяў, поўным казак цудоўных, сустракае яго густы гай; гулам зычным і тонкім, як музыка струн, праводзіць цёмны бор. Вецер нябачнымі, мяккімі пальцамі рук кратае зычныя струны стромкіх сосен і яны зьвіняць музыкай, тэй, якой жадае чалавечае сэрца.

Па ўсёй зямлі, паміж лесам і полем, ляглі шырокія багны балот, усланыя махавымі дыванамі ці бліскучымі вадзянымі абрусамі. Балоты парасьлі нізкім, рэдкім, ссохлым хвойнікам, ды дзе-ні-дзе паміж хвойніку на ўзгорку, як зблудзіўшая, стаіць сірацінаю нізкая, скрыўленая, тонкая ад хворасьці бярозка.

Раніцаю і ўвечары, і позна ўначы вісяць над балотамі густыя, сатканыя з вільгаці, шызыя туманы.

Угары над зямлёю плывуць, занятыя толькі самымі сабою, мутныя хмары. Па зямлі лётаюць сьцюдзёныя сіберныя вятры. Па зямлі, уперагонкі з вятрамі, носяцца белыя мяцеліцы. Па зямлі, акутаная мяцеліцамі, ходзіць вобмацкам, блудзячы, чалавечая постаць. Яна часосьці асьцерагаецца, чамусьці дапытліва ўзіраецца ў мяцельную далячынь і нясьмела снуе па зямлі, ідучы насустрач сваей сьмерці.

Наўкол яе, у шчыльным дзікім карагодзе сьмерці, поўзаюць па зямлі агідныя страшыдлы. Яны плююць у спалоханага, згубленага чалавека гарачымі кавалкамі чугуна і волава ды йрвуць на часткі параненыя грудзі зямлі.

Гэта яны наставілі ў бок чалавека вялізныя, чорныя лычы гармат і гострыя і хітрыя пысы кулямётаў і вінтовак, і шыбаюць у яго стрэламі з палаючага пораху. Гэта яны наставілі супроць чалавека агострыя, бліскучыя клыкі штыхоў і, каб ня ўцёк чалавек, густа абаснавалі вакол яго зямлю сеткамі з калючага дроту.

— Ха-ха-ха! — рагочуць яны ў твар чалавеку. — Ты зусім змарыўся, ты хочаш хоць крышачку адпачыць? Добра, адпачні, паслухай, як граюць музыкі. Чуеш ты гэты жалобны марш? Гэта табе, там успомнілі сёньня цябе. А гэта струны віолёнчэлі і скрыпак так плакліва выкрыкваюць мэлёдыю чарлістону. А гэта ўжо ня музыка, гэта зьвіняць келіхі і кубкі з-пад выпітага віна і рагочуць здаволеныя тваёю пакорлівасьцю, п'яныя ад радасьці і віна, шчасьлівыя людзі.

---

**) Адрывак з уступу да рамана „Спалох на загонах" Платона Галавача, талентавітага беларускага пісьменьніка з Савецкай Беларусі (летась „зьліквідаванага"...).*

Ты спыніўся? Табе спадабалася гэта, ці мо' зайздросьціш ты іхняй радасьці і іхняму шчасьліваму існаваньню? Ну, не, гэтага табе нельга! Ты не павінен пра гэта думаць. — Твая ўвага павінна быць тут уся цалком, каб яны мелі мажлівасьць піць віно, радавацца жыцьцю і слухаць музыкаў. Дык ідзі-ж, ідзі, бо там злуюць, што ты сьцішыў крокі.

Ты ня хочаш? Ха-ха-ха! Які ён дзіўны, — ён захацеў паслухаць музыкаў, захацеў сапраўднага адпачынку і захацеў падумаць пра сваю сям'ю.

Ты памятаеш пра сваю хату? у ёй няма памосту і працякаюць дах і столь. Праз шчыліны ў вокнах пралазіць у хату з ветрам мяцеліца. Бр-р-р... Як сьцюдзёна ў тваёй хаце. І як яна за гэтыя два гады апусьцела. Вось толькі на печы, на астыглай чарэні нешта скорчылася, захаваўшыся ў рызьзё. Гэта тваё дзіця, твой самы меншы сын. У яго шчарнелыя тонкія ногі і рукі і праз меру таўсты жывот. Яно нешта гавора? Чуеш? Гэта яно гукае маці, просіць у маці есьці. Але маці няма ў хаце. Яна, вось, тая, бачыш, у парванай, лапленай сьвітцы жанчына, стаіць ля парогу ў хаце багатага суседа. Сьлязьлівымі, упалымі вачыма, пазірае яна на суседаў стол і, працягваючы руку, просіць для дзіцяці хоць маленкую скібачку хлеба.

Табе шкода іх? Ты хочаш пайсьці адсюль, каб ратаваць сына і жонку? Ха-ха-ха! Дзівак! Ён забыўся, што ня мае на гэта ніякага права. Забыўся, што яго месца тут і, пэўна, забыўся, што яму загадана спаткацца з чалавекам у зялёным шынэлі і забіць яго, каб была мажлівасьць радавацца, слухаючы музыкаў, і піць віно тым, хто п'яны ад шчасьця. Дык як-жа ты асьмеліўся жадаць пайсьці да сына і жонкі! Тваё месца ня там, каля іх, а тут. Дык ідзі-ж уперад, сьпяшайся адшукаць чалавека ў зялёным шынэлі. Ты ня хочаш?... Ах, дзівак, дзівак. Які-ж ты сьмешны! Да хто-ж табе даў такое права, каб не хацець? Ха-ха-ха...

Страшыдлы падпаўзаюць бліжэй да чалавечае постаці, высалупваюць у яе бок свае палымнеючыя языкі, злосна сіпяць, дыхаюць на яе атрутамі, дражняць яе і рагочуць над яе бясьсільлем...

Над полем, лесам, над балотамі плывуць, занятыя толькі самымі сабою, мутныя хмары. Па зямлі, у перагонкі з вятрамі, носяцца белыя мяцеліцы. А сярод поля, лесу, пасярод балот, туляцца нізка да зямлі, параскіданыя кучкамі, цёмныя, брудныя, маленькія хаткі і ў іх — чалавек, істота самая моцная і самая кволая з істот прыроды, самая разумная і самая бязрадная, каб пазнаць самога сябе — чалавека.

У чалавека доўгія косы на галаве, сьветлыя ясноты неба і сінія, як яно, вочы. Чалавек, які жыве чорным хлебам папалам з асьцюкамі і мякінай ды бульбай. Чалавек прыкаваны ланцугамі адвечнае спадчыны, што пераходзіла ад дзядоў да бацькоў і ад бацькоў да сыноў, — да сваёй уласнай вузенькай палоскі поля, да свайго ўласнага дзядзінца, свайго ўласнага разбуранага хлява і сваёй уласнай цёмнай, поўнай гразі і бруду, хаты.

Чалавек, які жадае лепшае долі і ня ведае, дзе яна; які ўвесь век свой выпрашвае гэтую долю то ў царкве, уторачы ўсьлед за бацюшкам, словамі малітвы, што аддаюцца культурным багом праваслаўя і каталіцызму, то кланяючыся ў адзіноце ў полі, спаленаму маланкай, чорнаму дубу, то молячыся вадзяніку, што выходзіць на яго зямлю ў туманавых вопратках.

Чалавек, які да ўсіх гаворыць сваёй мовай і якому ніхто і ніколі гэтай мовай не адказываў.

Чалавек, які ўсе жаданьні збалелай душы сваёй, усе імкненьні свае выказываў, толькі ў надзвычайна прыгожых і багатых казках, і ўсе пачуцьці свае выказваў у сумных, поўных тугі і роспачы, песьнях.

Чалавек, які рэдка протэставаў, яшчэ менш змагаўся сам за сябе, мала гаварыў, многа маўчаў. А маўклівасьць, як сказаў адзін вялікі майстра слова, — гэта прытулак простай душы, паспрабаваўшай усю глыбіню тугі чалавечай.

Чалавек, з памяці якога хітрыя і моцныя зброяй палітыкі сьцерлі яго ўласнае імя і выхавалі ў сэрцы ягоным сорам за самога сябе.

Чалавек, які, калі яго выгналі вайной са сваёй хаты, ішоў на далёкі ўсход, і шлях свой цяжкі і бясконцы ўстаўляў крыжамі над магіламі дзяцей сваіх, каб ня зблудзіць, калі прыдзецца варочацца дадому...

Чалавек, які цярпеў столькі, як ніводзін яшчэ чалавек у Эўропе...

---

## ГІСТОРЫЯ КУЛЬТУРЫ

# ДАГІСТАРЫЧНЫ ЧАС

**Зямля без чалавека.** Калі-б мы маглі перанясьціся ў бясконца далёкае мінулае і паглядзець з вышыні на Зямлю, то пабачылі-б вялізарную вогненую кулю, якая з шалёнаю шыбкасьцю круціцца ў вадзяной пары сярод бязконцага мора Ўсясьвету. *Зямля нашая была тады ў растопленым стане.*

Міналі паволі мільёны гадоў. Зямля памаленьку астывала. Паверхня яе пакрывалася тонкімі пластамі сьцьвярдзеўшага каменя. Вадзяная пара пачала згушчацца ў хмары і ў канцы першы дождж зашыпеў на каменьнях Зямлі. Калі-б нам удалося тады на яе спусьціцца, мы апынуліся-б на гарачых каменьнях бяз глебы, бяз ніякой расьліны. Навокал нас зьбягалі-б з скал ручаі гарачае вады і бушавалі-б гарачыя вятры. А ўсюды толькі *голыя маўклівыя каменьні.* Але бязконцыя дажджы за далейшыя мільёны гадоў размачылі, размылі, скрышылі каменныя скалы ў пыл і пясок, а потым, разам з ветрам, паразносілі гэты пыл па нізінах Зямлі. *Пачалі тварыцца пласты глебы.* Слой над слоем, век за векам, адкладаліся яны такім спосабам і ў канцы стварылі быццам кнігу, у якой старонкамі зьяўляюцца пласты глебы, а літарамі рэчы ў іх захаваныя.

Чытаючы першыя старонкі гэтага каменнага летапісу мы знаёмімся з тым часам, які завецца *Азойскай эрай.* Гэта быў час паўстаньня самых ніжніх цьвёрдых гатункаў каменнага грунту. У пластох гэтай Азойскай эры захаваліся толькі сьляды дажджавых капляў і цёкшае вады, але ніякіх азнак расьлін і жыцьця няма.

Далей, па меры таго, як мы пасоўваемся наперад у чытаньні нашага летапісу, пачынаюць зьяўляцца ўжо сьляды жыцьця — пачынаецца *Палеозойская эра.* Паявілася, няведама скуль, першая жывая істота, бясконца маленькая, якая мільёны гадоў плавала ў морскай

вадзе, жыла, разьвівалася і размнажалася, набывала розныя формы, аж у канцы моры пачалі кішэць найпрасьцейшымі жывымі істотамі. Водціскі тагачасных водарасьляў, чарвякоў, чарупаўкі (карытцы) смаўжоў і інш. сьведчаць, што ў вадзе на Зямлі пачалося жыцьцё. Яшчэ праз мільёны гадоў у морах ужо жылі вялізарныя, больш сажаня скорпіёны, а яшчэ пазьней зьявіліся і першыя рыбы з таўстою цьвёрдаю лузгою. Аднак на сушы яшчэ ня было ніякіх сьлядоў жыцьця. Толькі ў канцы Палеозойскай эры жыцьцё пачало пашырацца з вады на сушу. Першымі перасяліліся расьліны. Водарасьлі, што расьлі на самай мяжы вады з сушаю, спачатку не маглі стаяць у паветры. Яны ляжалі на сушы і толькі два разы ў дзень, калі прылівы пакрывалі іх вадою, праставаліся і быццам адпачывалі ад ляжаньня. Аднак, з часам, яны разьвілі ў сабе здольнасьць стаяць і бяз вады, толькі ў паветры, — яны вырасьцілі ў сабе нешта падобнае да дрывоціны. А яшчэ пазьней яны пачалі абыходзіцца зусім бяз помачы вады, перасунуліся яшчэ далей ад мора і пакрылі сушу, разьвіўшыся ў розныя формы. З часам на Зямлі ўжо расьлі дзіўныя лясы з вялізарных папарацяў, хвашчоў і т. п., дасягаўшых вышыні найвялікшых сучасных дрэў.

Гэта часы найбуйнейшай расьліннасьці на зямлі. Ніколі раней ані пазьней не расьлі такія вялікія, густыя лясы, як тады. З тых буйных хвашчова-папаратных лясоў сучаснаму чалавецтву асталася цэнная спадчына — *каменны вугаль.* Сталася гэтак таму, што вялікія павалы тагачаснай буйнай расьліннасьці, прыкрытыя ў пазьнейшым часе слаямі глебы і лежачы мільёнамі гадоў глыбака пад зямлёй бяз доступу паветра, — *звуглелі,* сталіся цьвёрдымі, як камень, *каменным вугальлем.*

Сьледам за расьлінамі папаўзьлі з вады і малыя жывучкі: запоўзалі па нізінах тысячаножкі, у паветры залётала розная жамяра; скарпіён, пяратварыўшыся ў павука, павіс на галінах папараці, па лясох запоўзалі розныя голыя гады. Былі яны тады зусім не маленькімі. Напр. конікі мелі даўжыню распраставаных крыльляў каля мэтра, а павукі вялічыню больш двох мэтраў. Але ўсе гэтыя істоты і малыя і вялікія жылі спачатку каля вады, бо яны яшчэ не маглі дыхаць толькі лёгкімі, а муселі дыхаць і зябрамі ў вадзе. Такія істоты завуць *„амфібіямі"*. Звычайная жаба, што вырасла з галавасьціка, дыхаючага толькі зябрамі ў вадзе, а потым жывучы на сушы каля вады дыхае лягкімі, — магла-б нам многа што расказаць аб жыцьці амфібіі.

Ні жывёлаў, ні птушак тады яшчэ ня было.

Вывучаючы летапіс Зямлі яшчэ далей, мы знаходзім астаткі першых хрыбетных істот, дзеці якіх ня мусілі жыць у вадзе, як галавасьцікі, а маглі ад першага моманту свайго існаваньня дыхаць толькі паветрам. Гэта былі аграмадныя гады. У густорыі Зямлі наступіла *Мэзозойская эра,* час панаваньня гадаў. Усе сучасныя вядомыя нам гады існавалі і тады, толькі ў значна большай лічбе і значна вялікшыя. Але былі і стварэньні, якія даўно ўжо зьніклі. Напр. былі яшчары, якія мелі ад лыча да канца хваста 25 а нават 30 мэтраў. Некаторыя з гэтых вялікіх гадаў вярнуліся назад у мора і або плавалі па вярху, або ныралі пад ваду. Рыба тады мела ўжо больш тонкую і мяккую лузгу, чым раней. Некаторыя гады жылі на дрэвах. Яны былі падобныя да вялікай „лётаючай мышы" (кажана), толькі зусім голай. Аднак

запраўдных птушак у тыя часы яшчэ ня было. Гэткім было жыцьцё ў Мэзозойскую эру, якая цягнулася прыблізна 80 мільёнаў гадоў. Гэта была эра цёплага клімату, эра парніковых расьлін і парніковых істот, якія ня знаді холаду.

Але раптам пачалі працаваць нейкія таямнічыя сілы Зямлі. Век за векам, мільён за мільёнам гадоў клімат рабіўся ўсё больш і больш халодным. Здавалася, усё жывое прытасаванае толькі да парніковага цяпла, павінна будзе згінуць. Але сталася нешта іншае. Усе многалічныя, маладыя, яшчэ толькі нараджаючыяся гатункі жывых істотаў, пачынаюць паволі прытасоўваць свае арганізмы да новага клімату. Адзін гатунак яшчараў-скакуноў пачаў разьвіваць на сабе новы, больш даўгі і тонкі, чым у рыб, род лузгі. З часам гэтая лузга зрабілася больш мяккаю і падзялілася на тонкія галінкі. Гэта было ўжо пер'е, якое дало магчымасьць яшчарам-скакунам лепш пераносіць холад. А калі пер'е пакрыла ўжо ўсё цела, то далейшае іх пашырэньне на пярэднія ногі стварыла з часам і крыльлі. Гэткія самыя зьмены лузгі адбыліся яшчэ і ў іншых істот, але ў тых яна ператварылася ў шэрсьць. Разам з зьменамі лузгі ў іх зьявілася і іншае адношаньне да нашчадкаў (патомства). Гады аб яйках рупяцца мала: выводзіць дзяцей яны застаўляюць сонца і летняе цяпло. Пярнатыя-ж істоты пачалі іх выседжываць, грэючы сваім целам, а істоты, парошшыя валасамі і шэрсьцяй пачалі дзяцей гадаваць і захоўваць у сваім целе, пакуль тыя добра не разаўюцца. Гэткім чынам, паволі, мільёнамі гадоў, паяўляліся на Зямлі птушкі і жывёлы сысуны (сысунамі завуцца тыя жывёлы, якія кормяць сваіх дзяцей малаком).

Мінуў час вялікага холаду на Зямлі і мы зноў уступаем у пару цёплага клімату. Пачынаецца новая *Кайнозойская эра.* Бедным, у прыраўнаньні да папярэдняга, малюнкам адчыняецца новая старонка нашага летапісу. Зьніклі зусім вялізарныя гады. Холад зьнішчыў іх, бо дзеля сваёй вялічыні яны не пасьпелі прытасавацца да новых варункаў жыцьця. Зьніклі і тыя дзіўныя лясы з вялізарных папараціяў і хвашчоў. Асталіся на Зямлі толькі першыя нязграбныя і простыя гатункі птушак і жывёл-сысуноў, ды грубыя, моцныя дрэвы. Аднак, у меру таго, як цяплеў клімат, гэтыя простыя істоты і дрэвы разьвіваліся далей і рабіліся ўсё больш падобнымі да сучасных. У сярэдзіне Кайнозойскай эры Зямлю пакрылі лясы з сасны, дуба, клёну і г. д.; закрасавалі сваімі прыгожымі краскамі краскавыя расьліны; па траве запоўзалі жукі, мурашкі; у паветры залёталі пчолы, матылькі; забегалі, заскакалі жырафы, коні, алені, сабакі, львы, тыгры, наўпы. А ў самым канцы эры *зьявіўся нарэшце чалавек.*

Калі-ж адбываліся гэтыя цікавыя зьмены ў жыцьці Зямлі? Пэўнага і яснага адказу на гэтае пытаньне навука не дае — дакладна ня відаць пачатку жыцьця ў бяздоннай студні часу. Аднак найнавейшая навука гаворыць, што Азойская эра пачалася прыблізна 2 мільярды гадоў таму назад, Палеозойская эра — 1000—700 мільёнаў, Кайнозойская — 70—50 мільёнаў гадоў. Канец-жа Кайнозойскай эры — час паяўленьня чалавека — трэба аднесьці да 525—500 тысяч гадоў таму назад. Знача, чалавек яшчэ не стары госьць на Зямлі, бо існуе толькі каля поўмільёна гадоў.

**Першыя крокі чалавека на Зямлі.** Як мы бачылі, усе многалічныя жывёлы і расьліны не паўсталі адразу і ў тым выглядзе, як яны існуюць цяпер. Паўстаўшы ў вадзе з нейкай пачаткавай бязфор-

менай жывой субстанцыі, усе роды жыцьця на Зямлі мільё н за мільёнамі гадоў паступова мяняліся і разьвіваліся, або гінулі, пакуль тыя, што асталіся, асягнулі сваю сучасную разнастайнасьць і сучасны выгляд. Гэта і ёсьць, так званы *закон эволюцыі* (закон паступовага разьвіцьця). Гэтаму закону падлягае і чалавек. Век за векам, скрозь бяздоньне часу, жыцьцё чалавечае істоты ішло наперад, разьвівалася і ад прасьцейшых формаў дайшло да Разумнага чалавека (Homo sapiens).

З гэтага гледзішча нязвычайна важным часам была сярэдзіна Кайнозойскай эры, калі на Зямлі зноў было вялікае лета. Тады якраз адбывалася надта цікавае зьявішча — *паўставаньне чалавека.* Ходзіць аб тое, што адзін з гатункаў жывёлаў-сысуноў, што жыў на дрэвах, пачаў паволі зьменівацца ў двох кірунках. Некаторыя з гэтых лясных жывёлаў, асталіся і далей жыць на дрэвах і, паволі пераменіваючыся, мільёнамі гадоў, набіралі выгляду наўпаў; з іх паўсталі цяперашнія чалавекападобныя наўпы. Іншыя-ж з іх сталі жыць на зямлі і, таксама паступова, памаленьку, мільёнамі гадоў, ператварыліся ў *чалавека.*

Грэцкія і рымскія казкі завуць гэны час „Залатым векам“, а самае жыцьцё чалавека „райскім“. Ён быццам ня ведаў тады хвароб, не разумеў страху сьмерці; ня было ў яго ні жыльля, ні адзежы; ня меў ён патрэбы нават працаваць, бо найсмашнейшыя плады амаль самі валіліся ў рот. Гэты „шчасьлівы райскі чалавек“, праўду сказаўшы, тады быў яшчэ вельмі падобны да чалавекападобнай наўпы: быў ён аброшшы з галавы да ног валасамі і хадзіў на чатырох нагах. Шмат тысячагодзьдзяў прайшло, пакуль чалавек пачаў ня толькі прабаваць трымацца, але й *хадзіць на двух нагах.* Затое момант, калі ён цьвёрда стаў на сваіх задніх канцавінах, калі яго цела выпраставалася і вочы пачалі глядзець у неба, — аканчальна і безпаваротна аддзяліў чалавека ад жывёлы. Першым вынікам гэтага было — *здольнасьць мовы:* шыя чалавека звольнілася ад грубых мускулаў, патрэбных жывёлам для падтрымкі зьвісаючай галавы, а горла пачало шырыцца і рабіцца здольным да ўдасканаленьня гукаў. Другое, ня менш важнае, было: зьявіліся *вольныя пярэднія канцавіны — рукі.* Імі ён мог ужо трымаць аружжа ў змаганьні з ворагам, а галоўнае, — *мог рабіць прылады працы.* З гэтага часу пачынаецца канец „райскага жыцьця“ чалавека. Ён пачаў *працаваць* і тварыць культуру, якая сяньня зрабіла яго гаспадаром амаль усяе Зямлі.

У час, калі чалавек рабіў на Зямлі свае першыя крокі, выгляд Зямлі быў зусім іншы, чым цяпер. Эўропа, напр., была злучана з Афрыкай Пірэнэйскім і Апэнінскім перашэйкам, а з Малой Азіяй сушаю ў тым мейсцы, дзе цяпер знайходзіцца Эгейскае мора. Ня былі яшчэ тады аддзяліўшыся і Вялікабрытанскія астравы; а Чорнае мора было злучана з Каспійскім. Клімат быў гарачы і ў Эўропе было таксама цёпла, як цяпер у трапічных краёх. А ў Беларусі, — там, дзе жывём мы з вамі, — скрозь буйныя зарасьлі пальмавых дрэў прабіраліся стады мамантаў і сланёў, і выглядаў сваю здабычу леў.

**Ул. Пігулеўскі**

# НА ЎЛАСНЫ ШЛЯХ!

*(З прычыны выхаду зборніка Максіма Танка „Пад мачтай")*

Як надыходзе Вясна, поўнымі жменямі сыпле Прырода краскі па зямлі. І дзіўным хараством зьзяюць-сьвецяцца гэтыя веснавыя краскі, а кожная з іх чаруе вока нашае, як закончаны, ідэальны мастацкі твор Прыроды. Збуджаная стыхія Зямлі, разьбіўшы ледавыя путы Зімы, з надзвычайным размахам стараецца выявіць усе свае жыцьцёвыя сілы, творачы Красу.

У веснавыя дні юнацтва малады паэта, пачуўшы ў сабе нясьведамую дагэтуль творчую моц, поўнымі жменямі кідае пэрлы сваей паэзіі, спароджаныя натхненьнем, і яны, — як гэныя краскі веснавыя,— чаруюць нас сваім хараством і дзівяць багацьцем. З перапоўненае сьвятым агнём душы маладога творцы вырываюцца на вольны сьвет. З нетраў падсьведамасьці вызваляецца гэтак творчая стыхія.

Гэты паэтыцкі абраз мо' ня зусім адпавядае ролі літаратурнага крытыка. Але паэзія Танка неяк сама сабой прымушае пісаць паэтыцкімі абразамі, заражаючы і крытыка сваей вобразнасьцяй.

Калі глянем на ўсю дасюлешнюю творчасьць Максіма Танка, якую гэтак высока стаўляюць ня толькі свае, але й чужыя, дык атрымліваем уражаньне, што перад нашымі вачыма запраўды адбываецца нейкае містычнае *вызваленьне стыхіі*. Так выбухова-бурліва паўстаюць ягоныя вершы. Як-быццам творчая сіла пераліваецца цераз край тае судзіны, у якой яна зьмяшчаецца, а судзіна тут — душа паэты. Багацьце формаў і выяўленчых спосабаў, кіпучыя рытмы, глыбокія мэтафары, папросту ашаламляюць чытача. Не дарма-ж сам наш паэта неяк сказаў: „У мяне кожны радок — гэта мэтафара". З гэтых радковых мэтафараў-абразоў, каторых у Танка — безьліч, мастак слова ўкладае пышныя букеты, якія адначасна гавораць да нас і сваімі складовымі элемэнтамі, і сваей суцэльнасьцяй. Але — не заўсёды захоўваў паэта тут належную раўнавагу.

Пры чытаньні вершаў Танка само сабой насоўвалася прыраўнаньне да зусім іншае галіны мастацтва: да пластыкі. Характар паэзіі Танка прыпамінае стыль *барока*. Бо-ж і там — такая-ж пышнасьць і багацьце формаў. І там — кожная дэталь у будоўлі, разьбе, малюнку створана так, як творацца мэтафары ў радкох Танкавых вершаў. І там — у пэўнай меры стыхійнасьць у тварэньні, якая ў вырослым з барока стылю ракако дае папросту оргію формаў і матываў: гэткае тамака мноства іх, гэткія яны віхрыстыя, неспакойныя.

Танк выступіў на паэтыцкай ніве адразу як першарадны мастак, азброены найнавейшымі дасягненьнямі сусьветнае паэтыцкае тэхнікі. Сучасныя формы паэтыцкае творчасьці зусім адпавядалі нутраным настроям Танка і твораным ім абразом. Дзякуючы гэтым формам асабліва ярка выяўлялася стыхійнасьць Танкавае паэзіі. І часамі здавалася, што стыхія можа запанаваць над інтэлектам і сьведамай воляй паэты, можа павясьці яго зусім ня туды, куды ён сам хоча.

Аднак і ў гэных формах сусьветнае паэзіі Танк заўсёды аставаўся самым сабою. Ці возьмем ягоны першы томік лірыкі „На этапах", ці цудоўную паэму „Нарач", ці зборнік „Журавінавы цьвет" — Танкавыя абразы, Танкавая тэматыка — заўсёды новыя, асаблівыя,

да нікога непадобныя. Танк, беларускі дзяцюк, сын зямлі, спароджаны і ўзгадаваны пад саламянай страхой, — Танк, за свае барацьбяныя ідэалы ад юнацкіх гадоў цяганы па этапах, — Танк, пясьняр красы зямлі Беларускай і народнае душы, схаванае ад чужацкага вока пад прапацелай зрэбнай кашуляй і кажухом, — Танк гэты паказаўся адразу, як эўрапэец у шырокім разуменьні гэтага слова. І ягоныя творы роўна гавораць да беларускіх селян, як і да культурных эўрапэйцаў чужых нацыяў, роўна чаруюць адных і другіх.

Тое, што стварыў Танк, карыстаючыся сусьветнымі формамі найнавейшых паэтыцкіх кірункаў, дало ўжо яму несьмяротнасьць у беларускай літаратуры. Але Танк дзеля поўнага і ўсебаковага выяўленьня свайго духовага багацьця не здаволіваецца гэтым, а ўсьцяж шукае свайго ўласнага творчага шляху. Ані Есенін, ані Маякоўскі, ані польскія „авангардысты“ ня могуць яго здаволіць. Новы зборнік Танкавых твораў пад назовам *„Пад мачтай“*,— які толькішто выйшаў і даў новы бязцэнны ўклад у беларускую паэзію,—паказвае, што Танк запраўды выпрацоўвае для сябе новыя, свае ўласныя, індывідуальныя формы паэтыцкае творчасьці. Цяпер ужо няма ніякага сумліву ў тым, што ня стыхія валачэ паэту ў няведамым кірунку, але *Танк сам апанаваў і акялзаў стыхію*. Танк, як мастак, выходзе з юнацкага пэрыёду і дасьпявае. Сваей бяспрыкладнай творчай здольнасьцяй ён карыстаецца ўсё больш і больш сьведама. Зусім заслужаныя, але з гэткай лёгкасьцяй здабытыя ляўры не закруцілі яму галавы, не забілі ў ім здольнасьці да самакрытыкі. Танк крытычна разглядае кожны свой твор, шукае ў ім заганаў і слабых месцаў, каторыя пры перадруку апублікаваных ужо раз вершаў перапрацоўвае. І гэта — довад дасьпеласьці паэты. Калі ў ранейшых вершах Танка з прычыны перасычаньня іх мэтафарамі і другараднымі абразамі, — як барокавыя будоўлі перасычаны аздобамі, — структура часамі губляла сваю яснасьць, а лініі — выразнасьць (асабліва гэта відаць у дробных лірыках!), дык у найнавейшых сваіх вершах Танк уводзіць тут паважныя зьмены. У новым зборніку Танка ўжо не награмаджэньне паасобных радковых мэтафараў дэцыдуе аб характары суцэльнага абраза, але самая суцэльнасьць яго прадстаўляе самастойны, ясны і высока паэтыцкі абраз, у каторым мэтафары адыходзяць на належнае ім месца — на другі плян, як матар'ял падсобны. І гэта мо' найважнейшая зьмена ў паэзіі Танка.

Вось некалькі такіх вершаў Танка ў зборніку „Пад мачтай“, каторыя ў сваей цэласьці прадстаўляюць гэткі выразны, плястычны абраз, ня прыцьмёны дэталямі.

Памёр стары лірнік. Каб песьняў ягоных „не схавалі пад камень“, ён аддаў струны зорам, сум — вербам і калінам, радасьць — вазёрам, а рэха — далінам. Крыштальныя-ж вочы ягоныя сакол занёс на сонца. І вось перад паэтамі паўстала заданьне — ажывіць гэныя песьні. Дык

*Сягоньня мы ходзім*
*і ходзім па краю, —*
*звон зораў, сум, радасьць*
*і рэха зьбіраем...*

А вось — другі верш таго-ж тыпу: „Павязьлі цягнікі...“

Цягнікі павязьлі з вёсак у горад — восень. Апошнюю сымбалізуюць горы дасьпелых антонавак і памідораў, каторымі завалены ві-

трыны крамаў. З гэтых пладоў зямлі места п'ець сонца! І творацца на мястовым бруку тымі, што гэтага сонца з вітрынаў ня могуць дастаць, песьні пра восень, у якіх шумяць міліёны каласоў ды зьвініць сталь косаў.

Яшчэ адзін — мо' найбольш характэрны верш з гэткай будовай— „У Панарах". Панарскі горны ланцуг уначы, праз імглу, прадстаўляецца паэце караванам вярблюдаў, што йдуць зорным шляхам з няведамых даляў. Паэта кліча іх супыніцца ў межах беларускіх зямель Але вось сьвітае. Паднялася імгла. Аказалася, што караван, гэта — „ланцуг усхваляваных Панараў"...

Другое, што можна адзначыць у апошнім зборніку вершаў Танка як новае, гэта тое, што форма вершаў пачынае губляць сваю дасюлешнюю віхрыстасьць і робіцца больш простай і спакойнай, хаця, як і раней, усё ў паэтавай душы кіпіць і бурліць. І характэрна: абразы, маляваныя Танкам, ня толькі ня губляюць ад гэтага сваей жывасьці ды яркасьці, але, наадварот, робяцца йшчэ больш плястычнымі, бо іх лініі і структура — больш выразныя, лягчэй ухопныя. І здаецца, што мастацкі шлях Танка ўжо даволі выразна вызначаецца: паэта наяўна адыходзе ад барокавага стылю ды кіруецца ў бок несьмяротных формаў мастацтва *клясычнага*.

Неабходна зрабіць тут засьцярогу: аўтар гэтых радкоў усьцяж праводзіць паралель паміж паэтыцкай творчасьцяй Танка і мастацтвам плястычным, галоўным чынам — будаўніцтвам, і мае на думцы клясыцызм апошняга. Дык абмылковы быў-бы на падставе гэтых разважаньняў вывад, быццам Танк ідзе ў сваім разьвіцьці назад — ад найнавейшых формаў сучаснасьці да клясыцызму ў паэзіі, скажам, Пушкіна. Не. Танк ідзе не назад, а ўсьцяж наперад, шчасьліва абмінаючы грозны для кожнага мастака тупік, у каторым пачынаецца застой. І найнавейшыя формы сучаснае сусьветнае паэтыцкае творчасьці, каторымі гэтак памастацку карыстаецца Танк, атрымліваюць у яго новы *індывідуальны,* а тым самым і *нацыянальны беларускі* воблік: замест навеянага чужацкімі ўплывамі пераросту дрябязовых мэтафараў і віхрыстасьці выяўленчых спосабаў, паэта прыхіляецца ўсё больш выразна да шляхотнага супакою — сьведамага і арганізаванага. Танк у гэтым набліжаецца *да беларускае народнае паэзіі,* каторая, як і ягоная, нязвычайна багатая мэтафарамі, але адначасна чаруе нас сваей простай, яснай структурай і нутраной гармоніяй.

**Атос**

---

# „ЗАПІСЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА Т-ВА“

## ВЫДАНЬНЕ НЕПЭРЫЯДЫЧНАЕ. СШЫТОК I. ВІЛЬНЯ — 1938 г.

Невялічкі гэта сшыток, — бо толькі 72 старонкі, — але багаты сваім зьместам. У сшытку зьмешчана сем артыкулаў, датычачых гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры, розныя матар'ялы і зацемкі, і летапіс Бел. Навуковага Т-ва. Усе артыкулы апрацаваны сябрамі гэтага Т-ва.

Тры артыкулы ў апрацаваньні гр. гр. А. Луцкевіча, Д. Дарашэнкі і Ул. Талочкі прысьвечаны ўспамінам аб Фр. Багушэвічу і ягонаму жыцьцю і творчасьці; гр. Хв. Ільляшэвіч піша аб ведамай у XVI і XVII ст. віленскай беларускай друкарні Дому Мамонічаў; др Я. Станкевіч разглядае мову дыплёматычнага лісту Рыскае Рады 1271—1280 г. і сьцьвярджае яго беларускасьць; гр. Бал. Брэжга дае факсыміле гэтага-ж дакумэнту і гістарычную даведку аб ім. Гэты дакумэнт цікаўны, як памятнік пашырэньня беларускай мовы ў XIII ст.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае артыкул гр. М. Шкялёнка: „Падзел гісторыі Беларусі на пэрыёды“. Дасюль у гісторыі Беларусі адзначалі такіе пэрыёды: полацкі, літоўска-беларускі, польскі і расейскі, ня лічучы апошняга 20-годзьдзя. Гр. Шкялёнак паддае крытыцы гэты падзел і, выходзячы з пагляду, што падставай для падзелу на пэрыёды павінны быць ня вонкавыя „пераломныя“ моманты ў палітычнай сувязі ці прыналежнасьці да таго ці іншага гаспадарства, а глыбейшыя перамены *ў суцэльнасьці палітычнага, соцыяльнага і культурнага жыцьця народу,* прапануе падзяліць гісторыю Беларусі на наступныя тры пэрыёды: 1) пэрыёд *асобных гаспадарстваў* ад IX да паловы XIII ст., 2) пэрыёд *суцэльнае гаспадарсьцьвеннасьці* ад паловы XIII да канца XVII ст. і 3) пэрыёд *упадку беларускае гаспадарсьцьвеннасьці* да канца XVII ст. і да апошняга часу. З гэтых, першыя два пэрыёды абыймаюць Беларусь *незалежную,* з тэй розьніцай, што ў першым пэрыёдзе незалежнасьць беларускага народу існавала пры нястачы суцэльнага гаспадарства.

Такая трактоўка пытаньня зьяўляецца новай і арыгінальнай у беларускай гістарычнай навуцы, і работа гр. Шкялёнка павінна легчы ў васнову далейшых студыяў нашых гісторыкаў.

У распрацоўцы паасобных момантаў сустракаюцца думкі, якія вымагаюць пэўнага карэктыву. Маем тут на ўвазе цьверджаньне аўтара, што прыблізна з паловы XVII ст. Вял. Княства Літоўска-Беларускае згубіла *фактычна* (курсыў наш—рэд.) сваю незалежнасьць. Гэта ня было так. Як паказваюць досьледы сучасных вучоных (праф. др Ст. Кутшэба і інш.), абвешчанае Люблінскай вуніяй злучэньне В. К. Л.-Б. з Польшчай „у вадно гаспадарства і адзін народ“ ня было зьдзейсьнена ў жыцьці. Вял. Княства Літ.-Беларускае захавала і юрыдычную і фактычную сваю незалежнасьць да самых разьдзелаў Польшчы. Галоўны кодэкс аснаўных законаў княства „Літоўскі Статут“ 1588 г., значыцца выданы ўжо пасьля Люблінскае вуніі, ні разу нават не ўспамінае аб ёй, а палякоў трактуе, як чужынцаў ці „заграрнічнікаў“. Вялікае Княства Літоўска-Беларускае ніколі ня мела супольнага з Польшчай законадаўства, супольных вышэйшых адміністрацыйных, вайсковых, судовых і скарбовых уладаў. Т. зв. „карон-

ныя зьезды“ Польшчы і Літвы ў Варшаве і Горадні былі хутчэй кангрэсамі для абгаварваньня розных спраў, пераважна палітычных, а не законадаўчымі ўстановамі для абодвух гаспадарстваў. Вял. Княства Літоўска - Беларускае заўсёды жыло сваім асобым, самастойным жыцьцём: мела сваю тэрыторыю, у некалькі разоў вялікшую за тэрыторыю Польшчы, мела свае граніцы, сваю Канстытуцыю, сваю гаспадарсьцьвеную пячатку, сваю Гаспадарсьцьвеную Раду, свой вышэйшы судовы Трыбунал, свае Галоўны і Павятовыя Зьезды, або соймы, свае сьвецкія і духоўныя ўлады, якія займалі „родзічы“, але ня чужынцы. Замежная палітыка таксама вялася Вял. Княствам на ўласную руку, доказам чаго можа быць факт перагавораў аб фэдэрацыі В. К. Л.-Б. з Масквою ў палавіне XVII ст.

Праўда, што Польшча рабіла вялікія натугі, каб Люблінская вунія не асталася толькі на паперы, а ператварылася ў жыцьцё, і яна ўзапраўды дасягла значнага пашырэньня сваіх уплываў, асабліва ў культурным і рэлігійным жыцьці. Але гэта ня зьніштожыла самастойнасьці Вялікага Княства, якое ўсьцяж, заўзята бароніць сваю незалежнасьць. Гэтая барацьба, якая свой пачатак вядзе яшчэ ад Крэўскае вуніі, выпаўняе ўвесь XVII—XVIII век, пакуль ня скончылася поўным палітычным заняпадам аднаго і другога гаспадарства.

Як зазначае Рэдакцыйная Калегія, разглядаемы сшыток (першы посьле выданага ў 1933 г. „Гадавіка Бел. Навук. Т-ва“, выданы выключна на грамадзкія і сяброўскія складкі, і гэта дадае яму асаблівае вартасьці. Бел. Навук. Т-ва хацела-б і ў далейшай сваей працы абаперціся на матар'яльнай дапамозе свайго ўласнага грамадзянства, чаму і зварочваецца да ўсіх сьведамых беларусоў з просьбай выплачываць на друк працаў Б.Н.Т-ва хоць найменшые, але сталые штомесячные складкі. Грошы можна высылаць на імя скарбніка Б. Н. Т-ва інжынера Антона Трэпкі (Antoni Trepka, Wilno, ul. Garbarska 5, m. 6).

**С. Паўловіч**

# НАША ХРОНІКА

*** Украінскі **композытар М. О. Гайвороньскі** апрацаваў для мяшанага хору **сем** беларускіх народных песьняў, тры з якіх: „Гэй, паехаў сын Даніла“, „О-юля-лю“ і „Замуж пайсьці, трэба знаць“ ужо атрыманы ў Вільні. Рэшта чатыры маюць надыйсьці ў хуткім часе.

*** **Справа Беларускага Музэю.** Як падае Віленскае „Słowo“ (8.VI.38), Ваяводзтва запрапанавала дырэктару Беларускага Музэю ў Вільні ім. Івана Луцкевіча — гр. Антону Луцкевічу прылучыць Музэй да „Саюзу рэгіянальных музэяў“. (Запраўды — стварыць з Беларускага Музэю і з Музэю Літоўскага Навуковага Т-ва — „рэгіянальны“ музэй). Гр. А. Луцкевіч на гэтую прапазыку адказаў адмоўна. У сувязі з гэтым Ваяводзтва заявіла, што спыняе 400 зл. субсыдыі, якую што месяц выдавала Музэю на яго ўтрыманьне.

Музэй існуе пры Беларускім Навуковым Т-ве ад 1921 году.

*** **Спыненьне „Снапка“.** З месяца сакавіка перастаў выходзіць выдаваны Праваслаўнай Мітраполіяй пад рэдакцыяй гр. С. Паў-

ловіча дзіцячы часапіс „Снапок“. Гэта быў бясплатны месячны дадатак да газэты „Слово“. Ужо было выйшаўшы 10 нумароў. Прычыны спыненьня няведамы. Вуніяцкі часапіс „Злучэньне“ у № 6 падае, што выдаваць „Снапок“ забаранілі адміністрацыйныя ўлады.

⁂ **„Наш Золак“** — пад такім загалоўкам вышла ў Вільні аднаднёўка, увесь зьмест каторай прысьвечаны асобе нядаўна памёршага ў Празе Чэскай (21.I. 38) Др Тамаша Грыба, правадыра Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянераў. Аднаднёўка гэтая вышла заместа часапісу **„Золак“**, які выдаўцы хацелі ўзнавіць, а на што адміністрацыйныя ўлады не далі дазволу.

⁂ **Беларускае пытаньне** за апошні час сярод віленскага польскага незалежнага грамадзянства актуалізуецца. Гэтай справе прысьвяцілі спэцыяльныя вечары Клюб „Włóczęgów“ і Дэмократычны Клюб.

⁂ **Вечар беларускай літаратуры ў ліцьвіноў.** 17 мая літоўскае Т-ва Літаратуры і Мастацтва ладзіла вечар прысьвечаны беларускай літаратуры. На праграму вечара зладжылася: 1) інфармацыйны рэфэрат аб сучаснай беларускай літаратуры і 2) чытаньне твораў сучасных беларускіх пісьменьнікаў. Літоўскае грамадзянства з прыхільнай цікавасьцяй знаёмілася бліжэй з беларускай літаратурай. Вельмі прыхільна спаткала пазьней гэты вечар і мясцовая літоўская прэса.

⁂ **»Piûvis«** — пад такім загалоўкам сёлета ў чэрвені група маладых віленскіх літоўскіх літаратаў выдала аднаднёўку прысьвечаную літаратуры і мастацтву, большая часьць якой адпушчана для беларускага мастацтва і літаратуры. У аднаднёўцы зьмешчаны інфармацыйны артыкул аб тутэйшай беларускай літаратуры, ілюстраваны фотографіямі нашых паэтаў; далей ідуць пераклады з беларускай паэзіі і прозы і кароткая зацемка аб беларускім мастацтве, з рэпродукцыяй абразоў нашага мастака П. Сяргіевіча. Кідаецца ў вочы вельмі прыгожы графічны ўклад аднаднёўкі, праекту літоўскага мастака Ул. Дрэмы.

Гэтым самым часам выйшаў другі нумар „Калосься“, у якім многа мейсца прысьвячаецца Ліцьве і літоўскай літаратуры, з перакладамі літоўскіх твораў на беларускую мову.

⁂ **Высяленьне айцоў Марыянаў з Друі.** У канцы мая Віленскі Ваявода выдаў загад, каб чатырох айцоў Марыянаў, беларусоў — Я. Дашута, К. Смулька, В. Хамёнак і Ю. Кашыра — пакінулі Друю, якая ляжыць каля латыскай граніцы. Гэтыя ксяндзы-законьнікі знаходзіліся ў Друі ўжо здаўна і жылі ў сваім кляштары. Загаду такога не атрымаў толькі пяты марыянін — паляк. 10 чэрвеня айцы Марыяне беларусы пакінулі Друю і затрымаліся за прыгранічнай паласой. За некалькі дзён яны атрымалі дазвол вярнуцца назад у кляштар, каб упарадкаваць свае справы. Калі пасьля гэтага яны самі з Друі ня выехалі, 23 чэрвеня паліцыя іх вывезла з прыгранічнай паласы прымусова.

У справе айцоў Марыянаў польскія арганізацыі склікалі 16 чэрвеня ў Друю сход, на якім хацелі прыняць пастановы проціў айцоў; але, як піша „Kurjer Wileński“, „народ, хоць гэта сабраньне склікаецца проціў ксяндзоў, прыходзіць і пытае, нашто гэтае сабраньне. Адказу не атрымоўлівае, а толькі загадываюць яму пакінуць салю, а посьле аб-

вяшчаецца, што сабраньне ня можа адбыцца з прычыны... вялікай колькасьці асоб. Але народ у ліку 2 тысяч займае пляц і чакае, пакуль не разыйдуцца арганізатары веча"... „Беларускі Фронт" ізноў-жа піша, што народу было куды болей, чым 2 тысячы, што народ выступаў з вострымі пратэстамі проціў высяленьня айцоў Марыянаў і што арганізатары веча „прымушаны" былі разыйсьціся...

Захады ў Міністэрстве Нутраных Спраў і ў Ватыкане ў справе дазволу вярнуцца Марыянам у свой кляштар робіць генэрал айцоў Марыянаў — а. А. Цікота (таксама беларус).

Трэба тут адзначыць, што часьць польскай прэсы падчас усей гэтай справы вельмі нападала на айцоў Марыянаў. Кракаўская бруковая газэта „ІКС" дайшла да такой нагласьці і ілжывасьці, што закідала Марыянам... камунізм.

Посьле высяленьня айцоў Марыянаў, 8 ліпня наступіла высяленьне з тэй-жа Друі пяцёх марыянскіх клерыкаў: А. Падзявы, Ч. Сіповіча, К. Саруля, Б. Саруля (беларусы) і К. Аніськовіча (паляк).

⁂ **Канцэрты М. Забэйды-Суміцкага** адбыліся ў Вільні 8 мая і ў Варшаве 24 мая. У іх праграме апрача розных іншых твораў, былі і беларускія народныя песьні. Як заўсёды, найпрыхільней, з захапленьнем, былі прынятыя публікаю беларускія песьні ў вельмі мастацкім выкананьні нашага слаўнага сьпевака.

⁂ **Матуру** (атэстат сьпеласьці) сёлета ў Віленскай Беларускай Гімназіі атрымала 19 чалавек.

⁂ **Высялілі** адміністрацыйныя ўлады з Вільні айца Я. Гэрмановіча, таксама марыяніна-беларуса.

⁂ **Канфіскаты.** Былі сканфіскаваныя: „Беларускі Фронт" №7, за месяц ліпень; „Шлях Моладзі" № 14 з 30.VI.38.

⁂ **Беларусы на эміграцыі.**

**У Францыі.** Другі год ідзе, як у Францыі залажылася і разьвіваецца арганізацыя беларускіх работнікаў „Хаўрус".

12 сьнежня 1937 г. у Парыжы адбыўся Агульны Гадавы Сход гэтай арганізацыі, на парадку дня якога былі справы: 1) агляд працы за мінулы год; 2) устанаўленьне пляну працы на наступны год; 3) абнаўленьне Генэральнай Рады „Хаўрусу".

Наглядная Рада арганізацыі падала да ведама сходу, што за мінулы год Генэральная Рада „Хаўрусу" адбыла 6 паседжаняў, правяла 8 арганізацыйных сходаў, 32 зборкі курсаў, зарганізавала 3 асяродкі беларускіх работнікаў на правінцыі, залажыла беларускую бібліятэку-чытальню, выдала 4 нумары бюлетэню арганізацыі. Агульны гадавы даход „Хаўрусу" быў 3645.70 франкаў, расход 3605.40 фр.

Працу Генэральнай Рады сход прызнаў за здавальняючую і сябром яе выразіў найшчырэйшую падзяку. Пасьля гэтага адбыліся перавыбары. На старшыню Генэральнай Рады быў выбраны Я. Буйвіла; на старшыню Наглядпай Рады інжынер Л. Рыдлеўскі. Сход прайшоў у вельмі бадзёрым настроі.

Нашыя работнікі ў Францыі жывуць у блізкай прыязьні з украінскімі работнікамі. Як падае „Українська Воля" — паступовы часапіс украінскіх работнікаў у Францыі, — 27 сакавіка 1938 г. на ўрачыстасьці з нагоды выхаду першага нумару „Української Волі" вітаў украінцаў ад імя беларускай работніцкай арганізацыі ў Францыі інжынер Мікола Абрамчык. Як падае часапіс,

прамова была вельмі ўдалая і падчас яе не адзін раз зрываліся цэлыя буры шумных, гучных воплескаў. Прамову гэтую (у скарачэньні) знаходзім у тымжа нумары „Українськай Волі“ разам з фатаграфіяй прамоўцы. Тая-ж „Українська Воля“ падае, што 4 чэрвеня на парыскім прадмесьці Пюшо адбылося сьвяткаваньне 22 гадавіны сьмерці украінскага паэты І. Франка, дзе „гарну привітальну промову на пошану Франкових Роковин виголосив секретар Білоруськоï Робітничоï Організаціï „Хаврусу“ інженер Абрамчик Микола“.

**У Чэхаславаччыне.** Беларускі Архіў у Празе, дзе зграмаджаныя вельмі цэнныя дакумэнты і амаль усе паваенныя беларускія друкі, пасьля сьмерці кіраўніка Др Тамаша Грыба астаецца тымчасам бяз кіраўніцтва. Беларускае грамадзянства ў Чэхаславаччыне клапоцячыся аб тым, каб Беларускі Архіў і далей вёўся на адпаведнай вышыні, робіць стараньні, каб кіраўніком гэтага архіву быў назначаны адпаведна кваліфікаваны беларускі навуковы працаўнік.

*** **АБСА** — Аб'еднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў высылае, як і ў мінулыя гады, сваіх прадстаўнікоў на зьезд Міжнароднай Студэнцкай Арганізацыі (CIE), які адбудзецца ў сталіцы Грэцыі, у Атэнах.

**У Баўгарыі.** Даведываемся, што ў сталіцы Баўгарыі — Софіі, ужо даволі даўно існуе зарганізаваная група беларускай эміграцыі (больш 10 чалавек). Гэта старыя паваенныя беларускія эмігранты, паходзячыя пераважна з Віцебшчыны і Магілеўшчыны. Гэтая беларуская арганізацыя знаходзіцца ў цеснай лучнасьці з мясцовай арганізацыяй украінскіх студэнтаў.

*** **Беларусы ў Ліцьве.** Культурна-асьветная праца сярод беларусоў у Ліцьве ўсё разьвіваецца, доказам чаго ёсьць залажэньне там вясной сялетняга году другога ўжо беларускага народнага ўнівэрсытэту.

---

## ЗЯМЕЛЬНЫЯ БАГАЦЬЦІ БЕЛАРУСІ

Існуе пагляд, што Беларускія землі амаль зусім ня маюць ніякіх больш вартасных выкапняў, як напр. жалеза, вугаль, соль, нафта і інш. Ужо даўно казалася, што можна гаварыць аб тым, што зямельных нетраў Беларусі яшчэ ня знаем, але няма ніякіх падстаў на цьверджаньне аб іх беднасьці, бо ніхто яшчэ не рабіў тут дакладнейшых раскопак, сьвідраваньняў у глыб зямлі. А нават — цьвярдзілі некаторыя, — можна спадзявацца, што тут некалі знойдуцца многія цэнныя выкапні зямлі.

Перагляд, — хаця-б павярхоўны, — вестак, якія паявіліся ў гэтай справе ў леташнім годзе, гэтую думку пацьвярджае ў поўнасьці.

І так, дырэктар Геолёгічнага Інстытуту ў Варшаве інж. Ст. Чарнэцкі, летась у восені, гаворачы карэспандэнту „Gazety Polskiej“ аб працах гэтага Інстытуту, між іншым сказаў: „Нафтавай ропы шукаецца цяпер на перадгор'і Карпат і ў „Wielkopolsce“. Трэці абшар, каторы нас пачынае цікавіць з нафтавага гледзішча, гэта ўсходнія землі — ваяводзтвы Валынскае, *Палескае і Беластоцка - Наваградзкае паграніча*“ (падчыркненьне нашае— Рэд.); „Gazeta Polska“ з 28.IX. 1937 г.). Ходзіць аб тое, што многія даныя гавораць за тым, што на гэтых не дасьледжываных абшарах нафта ёсьць у зямлі. Трэба пры гэтым помніць, што нафта цяпер мае вельмі вялікае значэньне, перадусім, таму, што з яе

5000

дастаецца бэнзыну, пры помачы якой гоняцца маторы самаходаў і самалётаў.

Жалезную руду адкрыта ў некалькі мясцох. У Налібоцкай пушчы ўжо ў мінулым стагодзьдзі існавалі жалезныя гуты ў Вішняве і Налібоках, якія ператаплівалі мясцовую руду. Цяпер Прамыслова-Гандлёвая Ізба ў Вільні зьвярнула ўвагу на гэтыя забытыя багацьці. Досьледы, праведзеныя над гэтай рудой, паказалі, што яна мае ў сабе больш 40% чыстага жалеза. Саюз Жалезных Гут сьцьвердзіў, што руда з Налібоцкай пушчы, надаецца да вырабу адліўной сыравіны. Ідуць далейшыя досьледы над азначэньнем вялічыні і багацьця слаёў гэтай руды. У восені 1937 г. прамільгнула ў прэсе вестка аб тым, што жалезную руду выкрылі таксама каля Нясьвіжу. Досьледамі над гэтай рудой заняўся Віленскі Ўнівэрсытэт. Адначасна Інстытут Геолёгіі і Гыдролёгіі Акадэміі Навук Савецкай Беларусі выкрыў у Гарадоцкім раёне БССР значныя магнітныя аномаліі, каторыя цягнуцца шырокай паласой на 55 км на поўнач ад м. Віцебска. Яны паказываюць на прысутнасьць тут слаёў магнітнай жалезнай руды.

У лістападзе 1937 г. ізноў-жа паявілася вестка аб тым, што падчас капаньня студні ў Наваградчыне, каля Шчучына, на глыбіні 3.5 м знойдзены вялікія глыбы крыштальнай солі. Найбольшая з іх мела вагу 5 кг. Соль у зямлі звычайна не спатыкаецца ў малой колькасьці, з гэтага трэба судзіць, што там яе мусіць быць болей. Дасьледжываньнем выкапанай солі заняўся Дзяржаўны Інстытут Геолёгіі ў Варшаве.

У тым-жа годзе ў Савецкай Беларусі адкрылі слаі вівіяніту— сіняй жалезнай руды, — з якой робіцца сіняя хварба і штучныя гнаі.

Столькі ўдалося заўважыць вестак у 1937 г. аб адкрытых зямельных багацьцях Беларусі. А калі сабе яшчэ ўсьведамім, што тут даўно ўжо выкрыты руды вугаль (з якога цяпер немцы гоняць так цэнную бэнзыну), што маем аграмадныя абшары торфу*) і што многіх багацьцяў сваей зямлі мы яшчэ ня знаем, — дык зразумеем, што легенда аб беднасьці нашых зямельных нетраў дажывае свой век безпаваротна.

---

## ПРЫСЛАНАЕ Ў РЭДАКЦЫЮ

1. Jeronimas Cicėnas. Dvaruos praėstos dienos („Пражортыя дварамі дні“). Вільня 1937 г. Старон. 190. Гэта кніжка аб прыгоне, напісаная вельмі жыва і цікава маладым здольным літоўскім публіцыстам.

2. Ona Miciûtė. Žiburiai pelkėse („Агні на плёсах“). Вільня 1938. Старонак 84. Гэта першы зборнічак вершаў маладой літоўскай паэткі з Вільні.

3. Juozas Kėkštas. Toks gyvenimas... („Такое жыцьцё“...). Вільня 1938. Стар. 59. Таксама першы зборнічак лірычных вершаў віленскага літоўскага паэты. З гэтага і вышэй паданага зборніка даём у гэтым нумары „Бел. Летапісу“ па адным вершы ў перакладзе Максіма Танка.

*) *Спэцыялісты аблічаюць, што сама Віленшчына можа даць да 1333 мільёнау тон торфу (больш мільярда!), каторы раунавартасны 666 мільёнам тон каменнага вугальля.*

**УСІХ, ХТО ЯШЧЭ НЯ ПРЫСЛАЎ СКЛАДКІ НА „БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС“ ПРОСІМ ПРЫСЛАЦЬ У ЯКНАЙСКАРЭЙШЫМ ЧАСЕ**

# ГЫЛЯ, ГЫЛЯ МАЕ ШЭРЫ ГУСІ

*Народная з Сьвенцянскага павету*

Andante con moto.

Арр. А. КОШЫЦ.




p
pp
лю - - біць, Ой хто пры - га - - лу - біць, хто мя
чу - - - е род - на - я ма - - ту - ля, не па
ра - - - на ма - ла - до - - е шчасьце і мой
pp
мя - - - - - - - - - - - не пры - га - - лу - - біць хто
ву ня чу - - - - е ма - - - ту - - - ля ня
па - - - ла ма - ла - - - до - е шчась - це і
pp
па - - - - лю - - - - - - - - біць, хто
ву ня чу - - - - - - - - - е ня
па - ла шчась - - - - - - - - це і
pp
возь - - ме ма - - - - ла - - - ду, ма - ла - - ду?
це - - - шыць сі - - - - ра - - - ту, сі - ра - - ту.
срэбр - ны га - - - - ла - - - сок, га - ла - - сок.
pp
возь - ме ма - - - ла - - - - ду, ма - ла - - - ду?
ўце - шыць сі - - - - ра - - - - ту, сі - ра - - - ту.
срэбр - ны га - - - - ла - - - - сок, га - ла - - сок
pp
возь - ме ма - - ла - - - - ду, хто возь ме ма - ла - ду?
ўце - шыць сі - - - ра - - - - ту, ня ўце - шыць сі - ра - ту.
срэбр - ны га - - - ла - - - - сок, мой срэбрны га - ла - сок.